■ ПУЛЬС ЭКОНОМИКИ

# ГОРИЗОНТЫ «ГОРИЗОНТА»

Анатолий БЕЛОУС, «ДВ».

*Невозможно представить нынешнюю жизнь без «голубого экрана». Назойливому «ящику» поклоняются все от мала до велика, возле него коротают досуг и стар, и млад. А сегодня, когда хлеб и зрелища изрядно подорожали, телевизор стал для многих отдушиной. Да что говорить, если по их наличию (одного ли двух на семью) все еще определяется уровень жизни. Увы, обладателей последних марок нашего родного «Горизонта» иначе как состоятельными людьми не назовешь. Такие неподъемные цены не всякому по карману. Впрочем, удовольствие это того стоит... В чем же дело, почему так возросла стоимость минских телевизоров? С какими проблемами сталкивается сегодня предприятие? Каковы ближайшие перспективы? Об этом беседа нашего корреспондента с директором маркетинг-центра МПО «Горизонт» В.Г.ЛАДИКОМ.*

**— Виктор Георгиевич, сегодня многим предприятиям не позавидуешь, а вашему и подавно. Сложная продукция, десятки и сотни поставщиков, монопольно диктующих цены на комплектацию. Естественно, вам, выпускающим готовые телевизоры, во сто крат сложнее...**

— Именно так, практически все нынешние экономические хвори и болячки донимают и нас. Об этом легко судить по объему производства. Так, в самом удачном 1990 году объединение выпустило 1 миллион 100 тысяч телевизоров. Все они были в полном сборе, и рекламаций поступило минимум. В прошлом году с наших «стапелей» сошло чуть больше 800 тысяч. И при этом почти у каждого четвертого аппарата отсутствовал кинескоп. В нынешнем году, относительно прошлого, отставание порядка 40 процентов. Между тем, мы максимально стремимся сохранить коллектив, рабочие места. А это без малого 18 тысяч человек. Потому вот уже 3 месяца у нас четырехдневная рабочая неделя. Но с 1 октября постараемся перейти на пятидневку. Конечно, такой режим не от хорошей жизни. Учтите еще и такой факт: мы в буквальном смысле являемся сборочным цехом СНГ. Более 70 процентов комплектации нам поставляет Россия. Из других регионов бывшего Союза идет еще 12-18 процентов. Но беда наша не только в обширной географии поставщиков. Ведь все они практически оказались за рубежом. Отсюда проблемы с взаиморасчетами, сроками платежей. Инфляция, между тем, не дремлет. А присовокупите сюда канитель с таможнями, пошлинами, лицензиями. Целая трагедия у нас и с белорусским расчетным билетом, его безналичным соотношением к рублю. Ведь по коэффициенту 2,6 нам приходится закупать основную массу комплектующих. Плюс все накрутки, налоги, производственные издержки — отсюда и такие цены.

**— На вас еще ложится и бремя расчета по клирингу с Россией.**

— Только в этом году такие обязательные поставки готовой продукции составят 75 тысяч аппаратов. Кстати, 63 тысячи уже отправлено. И все это по жестко декларированным ценам, значит, рентабельность на этой партии практически нулевая, если не сказать в минусе. Правда, делается [illegible]. В принципе, правительство обещает предоставить своеобразную компенсацию, ослабить налоговый пресс. Однако пока этого не чувствуется. А вот от Департамента цен на днях меня уже отпустили...

**— И немудрено, такие цены, особенно последний скачок.**

— И все равно берут. Идет тотальный сброс «[illegible]». Да и телевизоры эти 6-го поколения. В их выпуске, особенно последних моделей, мы — законодатели мод на всех просторах СНГ. Посмотрите, что у нас творится на транспортной площадке. Потребители днюют и ночуют, согласны на предоплату и даже забирать телевизоры без кинескопов. Кстати, склады, где мы раньше такие аппараты хранили, пустуют вот уже более 100 дней. Монтаж идет буквально с колес. Кинескопы нам поставляет Воронеж. Для их стабильного производства нужна отклоняющая система, которую выпускают в Брянской области. А здесь зачастую простаивают из-за неритмичных поставок меди из Казахстана и ферритовых сердечников с Украины. У тех же, в свою очередь, тоже какие-то проблемы с недопоставками. И так по всей цепочке, и концов не сыщешь. К тому же воронежское предприятие обросло уймой коммерческих структур, которые на корню скупают готовую продукцию, а затем перепродают ее втридорога. И это иллюстрация только по одним кинескопам.

**— Что определяет качество наших телевизоров?**

— Многофункциональность, современный дизайн и сравнительно высокая надежность. Конечно, были времена, особенно до 1985 года, когда мы много получали нареканий на качество. Но с 1987 года при нашем предприятии заработал институт цифрового телевидения. И практически с тех пор мы диктуем моду на телеаппаратуру, обеспечивая всех исходной документацией. В принципе, при каждом заводе есть свое СКБ, и форма приемников может меняться, но суть остается нашей. К тому же нам есть на кого равняться. Мы поддерживаем довольно тесные партнерские отношения с голландской фирмой «Филипс». Идет обмен специалистами, наработанным опытом. Правда, голландцы сегодня смещают акценты, перепрофилируются, расширяя ассортимент своей продукции. Такова конъюнктура западного рынка, который перенасыщен телеприемниками.

**— О спросе на вашу продукцию можно судить хотя бы даже по тому количеству «самопалов», которые наводнили «черный» рынок. Известная республиканская газета даже напечатала рекомендации, как отличить телевизор заводской сборки от домашней...**

— Одна из причин такой подпольной самодеятельности, наносящей, кстати, немалый ущерб нашей марке, имиджу завода, — опять же несбалансированность цен. И, как правило, заниженность относительно подлинной стоимости. К слову, навести порядок с ценами нас давно уже просит Департамент по экономическому контролю. Собственно это мы и пытаемся сделать, но в Департаменте цен придерживаются иного мнения... И потому в свободной продаже популярных моделей телевизоров вы не увидите. Они скупаются оптом новоявленными коммерсантами и затем перепродаются, в том числе и в ближнее зарубежье. В итоге все равно страдает рядовой потребитель. К тому же, чтобы хоть немного осадить «черный» рынок, мы значительно подняли цены на некондицию, отдельные блоки и системы.

**— Сколько телевизоров поступит в этом году в госторговлю?**

— Намечалось около 350 тысяч, но, в связи со спадом производства, планируется отгрузить около 300 тысяч. Мы также отпускаем свою продукцию по договорам и контрактам, их уже оформлено более 10 тысяч. Правда, здесь применяется соответствующий коэффициент. Есть и при нашем объединении смешанные структуры, которые берут на реализацию нашу продукцию и с коэффициентом чуть пониже. Но, что немаловажно, многие из них участвуют в процессе производства, помогают нам со снабжением и комплектующими. А меня начинают проверять и спрашивают: почему им отпущено дешевле, кто возместит ущерб? То есть, бдительность наши чиновники не утратили и по-прежнему стреноживают производственников. Это парадокс и беда нашего переходного периода. Мы до сих пор не определились. Вроде как и ступили в лодку, но одной ногой на берегу зависли. Эта двусмысленность и неясность — самое страшное. С одной стороны — госрегулирование, тот же клиринг, проверки и контроль, а с другой — рынок, особенно в среде наших поставщиков. У наших российских коллег куда больше возможностей и прав, кое-кто из них начал уже акционирование и ими не помыкают до такой степени. Одна отрада: подписано соглашение о рублевой зоне, в чем немалая заслуга главы нашего правительства Кебича. Это же сколько наших сил и средств сэкономится. Вот только как скоро все эти решения воплотятся в жизнь...

**— И последний вопрос. Есть какие-то замыслы, заготовки, новинки, что ожидать потребителям?**

— Признаться, даже с последним повышением цен падения спроса на самые ходовые и престижные модели не чувствуется. Но мы не почиваем на лаврах и продолжаем изучать запросы покупателей. Кстати, недавно выяснилось, что жители многих регионов желают приобрести малогабаритный (34 см по диагонали) черно-белый телевизор. Потому на днях принято решение увеличить их выпуск в 4-м квартале в 1,6 раза. В следующем году намерены параллельно освоить производство черно-белых телевизоров с еще меньшим кинескопом для автолюбителей. Эти приемники смогут работать как от сети, так и от аккумуляторов, как от своей антенны, так и от стационарной. Ими наверняка заинтересуются и дачники. Неплохо он будет смотреться и на кухне. Но это для населения со средним достатком. А нашим состоятельным коммерсантам уже подавай телевизоры с телетекстом и телекадром. Утолим и их голод на такую технику, запустив новую модель 51 ТЦ 601. Есть также спрос и на приемники с очень большим экраном. Правда, пока он невелик. А в сущности, нашим институтом разработана схемотехника куда большей гаммы телевизоров, в том числе и с особо высокой четкостью. Вот это будет загляденье...

■ Я ВАМ ПІШУ

# ЧВЭРЦЬ КАНЯ,

## АБО ЧАГО РАДАВАЎСЯ ГАРКУН?

Яфім ІВАНОВІЧ, журналіст, ветэран вайны і працы.

Неяк па радыё ў «Вясковых ростанях» перадаваўся даволі красамоўны сюжэт. Былы калгаснік, а цяпер незалежны фермер, адказваў на ўжо набіўшае аскоміну пытанне: хто накорміць народ.

— Перад тым, як зайсці да вас, я завітаў на рынак, — гучаў у эфіры чысты бадзёры голас. — Божа літасцівы, якія там кантрасты! На паліцах калгасных і саўгасных магазінаў (цяпер такія ёсць на рынках) горы бананаў, мандарынаў, лімонаў, іншай субтрапічнай прадукцыі. І хто за імі стаіць? Ранейшыя нашы далёкія браты. Заглянуў у сектар, дзе гандлююць свае прыватнікі. Сталы ломяцца ад дабротнай, на любы густ, свініны, ялавічыны, цяляціны, разнастайных малочных прадуктаў. І ўсё гэта з 30-40 прысядзібных сотак. А калі б сяляне мелі больш зямлі, то было б яшчэ багацей.

Так заключыў свой аповед суразмоўнік карэспандэнта.

Вось грэшным чынам і думаецца, ці не падобнымі разважаннямі назіральнага фермера кіраваліся нашы мудрыя парламентарыі, калі прымалі, як падкрэслівалася, гістарычны акт у аграрнай палітыцы рэспублікі — Закон «Аб праве прыватнай уласнасці на зямлю». Сапраўды, калі з абмежаваных прысядзібных участкаў, па дзяржаўнай статыстыцы, можна атрымліваць 1/3 агульнай сельскагаспадарчай прадукцыі, то наколькі вырасце даная лічба, калі давесці плошчу ўчасткаў да гектара. Ды яшчэ ў прыватную ўласнасць. Напэўна, у два, а то і ў тры разы. А яшчэ ж ёсць садова-агародныя таварыствы і дачы, ўчасткі, якія па закону таксама значна павялічваюцца і становяцца прыватнай уласнасцю. Глядзі, і праблема харчовага дэфіцыту вырашыцца. Ну, калі не зусім, то адносна. Ва ўсякім разе, татальнага голаду можна не апасацца.

Але, мабыць, так уяўляецца сітуацыя, якую закліканы стварыць закон, з высокай трыбуны Вярхоўнага Савета і ўтульных, і няўтульных кабінетаў наменклатурнай чыноўнай раці. А ў якім становішчы апынецца той, хто па закону прыдбае ў прыватную ўласнасць запаветны гектар для вядзення падсобнай гаспадаркі? Наконт гэтага, здаецца, у парламенце не прагучала ні слова.

Але на справе зусім не так. Перад кожным уласнікам расшыранай сядзібы адразу ж паўстае пытанне: як апрацоўваць атрыманую зямлю? Калі з 30-40 соткамі ён спраўляўся з дапамогай рыдлёўкі, матыкі і грабляў, то гектар — ужо іншы маштаб, і справіцца з ім ручной тэхнікай будзе цяжкавата.

Хто-небудзь скажа, што дапамогуць грамадскія гаспадаркі, напрыклад, на нейкі час выдзеляць каня. Але ж у сённяшніх калгасах і саўгасах гэтай цяглавай сілы не густа. Нават для пасадкі бульбы на цяперашніх сотках, каб займець на якую гадзіну каня, ледзь не даходзіць да бойкі. Можна ўявіць, як абвострыцца праблема цягла, калі многія сельскія жыхары абзавядуцца расшыранымі сядзібамі.




Можа, калгасы і саўгасы дапамогуць сваім працаўнікам тэхнікай — трактарам, іншымі машынамі. Але ж гэта напамінае анекдот 30-х гадоў, калі няўдачлівы старшыня загадаў уцягнуць на званіцу паўразбуранай царквы карову, каб яна з'ела траву, што вырасла там. А калі ўсур'ёз, то хіба гэта справа — тэхніку, прызначаную для вялікіх плошчаў, выкарыстоўваць для апрацоўкі дзялянак, на якіх нават нельга развярнуцца з ёю.

Шукаць неабходнае цягло яшчэ дзесьці? Але ж запатрабуецца плата. І яшчэ трэба падумаць, ці будзе вартая аўчынка вырабу.

Самі ўладальнікі зямлі набудуць патрэбную ім малагабарытную тэхніку? Але зноў жа: яе пакуль няма. А калі б і была, то ці мэтазгодна дзеля аднаго гектара набываць мінітрактар або мотаблок, прычапныя прылады да іх. Я ўжо не гавару пра дарагоўлю ўсяго гэтага.

Як вядома, у прыватную ўласнасць зямля будзе прадавацца не з акультуранага калгаснага ці саўгаснага палетка, а са спецфонду, створанага для гэтай мэты. А землі там не з лепшых — няўдобіцы, зарослыя хмызнякамі, іх голымі рукамі не ўзнімеш, не давядзеш да ладу.

Аднак гэта не ўсё. Само сабой зразумела, уладальніку прыватнага гектара ніяк не абысціся без рэгулярнай працы ў калгасах і саўгасах. Без гэтага яму не выжыць. Вось і разрывайся на часткі.

Як ні круці, як ні вярці, атрымліваецца, як у вядомага пісьменніка-класіка «Чвэрць каня». Таму, шаноўны прыватнік, узбройвайся дзедаўскімі сродкамі і спосабамі апрацоўкі зямлі, выратоўвай любімую радзіму ад харчовага дэфіцыту. І няхай цябе не засмучае, што ў век касмічнай тэхнікі і кібернетыкі, сучаснай агратэхнікі будзе адбывацца дзікунскае растранжырванне самага дарагога і каштоўнага, што ёсць у грамадстве, — энергіі, сіл і здароўя чалавека.

Між іншым, камуністаў гэта ніколі не турбавала, калі задумвалі чарговы эксперымент, хоць на сваіх сцягах заўсёды пішуць, што галоўны іх клопат — аб простым працоўным чалавеку. Як бачым, не выключэнне і закон, пра які вядзецца размова.

Тым не меней, як і заўсёды, сярод «простых» людзей знойдуцца і сёння такія, што, нягледзячы на любыя цяжкасці і перашкоды, даб'юцца поспеху. Толькі вось задача: дзеля чаго такія ахвяраванні?




Успамінаецца прэс-канферэнцыя, прысвечаная, як падкрэслівалася, выдатнай падзеі — прыняццю Закона «Аб праве прыватнай уласнасці на зямлю». Трэба было бачыць, з якім шчаслівым выглядам пераможцы выступаў перад прысутнымі старшыня аграрнай камісіі Вярхоўнага Савета В.А. Гаркун. Што ж напаўняла радасцю заканадаўцу?

А многае. Як гавораць, удалося забіць двух зайцоў. Так, дзякуючы прынятаму закону, прабачце, затыкаецца рот тым, хто абвінавачвае парламенцкую большасць у адмаўленні прыватнай уласнасці на зямлю. Цяпер фармальна яна ёсць, калі ласка, карыстайцеся. Разам з тым застаецца непарушанай мілая чыноўнай наменклатуры калгасна-саўгасная сістэма — матэрыяльная аснова яе панавання. Адным словам, і козы сытыя, і сена цэлае.

А што зменіцца на практыцы? Істотна нічога. Лепшыя землі, якія знаходзяцца ў распараджэнні калгасаў і саўгасаў, па-ранейшаму будуць пакутаваць і збядняцца ў выніку казённых і нядбайных адносін да іх. А зямля ж, як вучаць сучасныя эколагі, таксама жывы арганізм, і яна не абыякавая да таго, як з ёю абыходзяцца, адчувае настрой гаспадара, цеплыню яго рук. Ад гэтага таксама залежыць аддача.

Па-ранейшаму глеба будзе атручвацца мінеральнымі ўгнаеннямі і пестыцыдамі (добра, што гэтая атрута падаражэла). Дай Бог, каб і далей павышаліся цэны на яе. Мо хоць гэта прымусіць нашых старшынь звярнуць увагу на арганічныя ўгнаенні, якіх горы назапашваецца вакол жывёлагадоўчых комплексаў. Павышэнне цэн на тэхніку там-сям прымусіла больш беражліва адносіцца да машын (нават сталі аднаўляць спісаныя).

Па-ранейшаму надой малака да 2300 кілаграмаў ад каровы будзе лічыцца нармальным у той час, як у асабістых падсобных гаспадарках надойваецца да 6000 і больш.

Па-ранейшаму найбольш здольная і здаровая моладзь будзе пакідаць вёску (каму ж хочацца жыць і працаваць, па сутнасці, ва ўмовах бяспраўя, прыгону і рабства).

Па-ранейшаму ўраджай будзем убіраць усёй грамадой, вядома ж, 30—40 працэнтаў вырашчанага будзе заставацца на полі.

Па-ранейшаму старшыньскі корпус будзе дружна не даваць зямлю для фермерства, бясконца патрабаваць дзяржаўнай дапамогі і крэдытаў, якія ніколі не вярталіся.

Гэтыя «па-ранейшаму» можна працягваць бясконца. Толькі што да таго парламенцкай большасці і ўрадавай наменклатуры. Яны прынялі, як ім здаецца, выратавальны закон — і няхай сельскі жыхар разрываецца паміж сваім прыватным гектарам і сваімі дабрадзеямі — калгасамі і саўгасамі.

Мал. Я. Бусла.

■ РЕСПУБЛИКА

### МЕДИКИ «ЗАБОЛЕЛИ» ЙОГОЙ

В Витебском медицинском институте начала свою работу платная группа по обучению желающих овладеть секретами хатха-йоги.

Будущие врачи и фармацевты постигают ее основы два раза в неделю. Ведет занятия работник ПО «Витязь» Л.Иванов, успешно прошедший аналогичный курс обучения в Москве.

### И ЗАСИЯЮТ ЗЛАТОМ КУПОЛА

**Малярные и штукатурные работы ведутся сегодня в Свято-Покровской церкви села Лужесно Витебского района.**

**Восстанавливается внутреннее и наружное убранство этого красивейшего не только в области, но и во всей Беларуси православного храма.**

**Предполагается, что в будущем году к празднику Покрова Святой Богородицы церковь будет полностью восстановлена в первозданном виде.**

### БЕДА В БИДОНАХ

Эпидемия дизентерии разразилась в Городокском районе. Причем самое ужасное, что из 70 госпитализированных 58 — дети.

Как стало известно корреспонденту РИДа, остановлен местный молокозавод. Это отсюда, в результате нарушения технологического режима и санитарно-гигиенических правил, в магазины и детские сады поступила тонна сметаны, зараженная бактериями рода шигелл.

Общее число заболевших не поддается учету. Но известно, что обычно при любой вспышке кишечной инфекции только треть из них обращается за медицинской помощью.

### НЕТ СОСТРАДАНИЯ В СЕРДЦЕ ПРЕДПРИНИМАТЕЛЯ?

**Благотворительному аукциону, подготовленному работниками Гомельского областного отделения Детского фонда, так и не суждено было сбыться.**

**Строительные материалы, мини-трактор, телевизор, видеомагнитофоны, мебель, дефицитные товары и даже права на строительство коттеджа в городе — все осталось «невостребованным». Приглашенные на аукцион предприниматели (за исключением представителей фирмы «ВВВ») не сочли нужным участвовать в мероприятии, средства от которого должны были пойти на оказание помощи обездоленным детям.**

**Похоже, между стремлением набить карман «баксами» и состраданием в людских сердцах пока еще лежит огромная пропасть.**

### ПОПОЛАМ «ВТОРОЙ ХЛЕБ»

Семь хозяйств пострадавшего нынешним летом от наводнения Столинского района прислали на Березовщину своих механизаторов вместе с техникой.

Прибывшие «волонтеры» убирают картофель на полях Березовского района для нужд родных хозяйств. А урожай у соседей, нужно сказать, вырос неплохой: собирают в среднем по 200 центнеров с гектара. Хватит и хозяевам, и гостям!

### ЗАВЕРНЕМ, МУЖИКИ, НО «СВОЕЙ»!

**Редкий пенсионер потратится нынче на курево: дороговато. Но «подымить»-то ведь хочется.**

**Пожилые люди в Пуховичском районе нашли простой и дешевый выход из положения. Они сами растят на своих огородах столь вожделенное «сырье».**

**— «Астра» по 150 рублей мне не по карману, — говорит старейший житель деревни Зазерка И.С.Валькович, — а вот собственный самосад — в самый раз.**

### «ИГРА» С ЖЕТОНОМ ДЛЯ СТОРОЖА

В Червенской вневедомственной охране с успехом применяется система жетонного контроля за... сторожами.

Суть ее заключается в следующем. Жетоны с номерами развешиваются на дверях или окнах охраняемых объектов предприятия. Через небольшой промежуток времени (час-полтора) сторож обязан менять их местами, соблюдая порядок, указанный в имеющейся у него таблице. Для упрощения контроля в систему обмена включается «лишний» жетон, который должен находиться в караульном помещении. По его номеру проверяющий всегда может определить, бодрствовал сторож или спал.

Охотников поспать на службе теперь значительно поубавилось: попался — прощай, месячная премия.

### ОТ «КОРОВЬЕГО» СПИРТА — ТРИ ГОДА ПОХМЕЛЬЯ

**К трем годам лишения свободы и конфискации имущества в доход государства приговорена заведующая Бешенковичской ветеринарной аптеки З.Грецкая.**

**Как установил суд, в течение нескольких лет она занималась хищением спирта, предназначенного для лечения скота. Воистину, горек час «похмелья»!**

### РАСХИТИТЕЛИ ПОЛУЧИЛИ ПО ЗАСЛУГАМ

Пуховичским народным судом закончено рассмотрение дела группы расхитителей, совершавшей кражи госимущества на территории района.

До своего ареста сотрудниками милиции злоумышленники успели «нагреть руки» в нескольких организациях города и района на сумму в 270 тысяч рублей.

За совершенные преступления к различным срокам заключения с конфискацией имущества и обязательным возмещением принесенного ущерба потерпевшим приговорены девять человек.

### СКУПОЙ «ПЛАТИТ» «КРАСНОМУ ПЕТУХУ»

**Зарабатывая большие деньги своей торгово-посреднической деятельностью, многие коммерсанты, тем не менее, как могут, экономят на противопожарной безопасности своих «комков». За что иногда бывают наказаны «красным петухом».**

**Так, загоревшийся коммерческий магазин в Марьиной Горке не удалось спасти от огня только потому, что в нем напрочь отсутствовали первичные средства тушения пожара. Итог «экономии» — сгоревшее здание.**

По сообщениям РИД.







### ДОМОЙ, В БЕЛАРУСЬ

Микрорайон из десяти жилых домов вырос на окраине Барановичей. Он возведен турецкой фирмой «Тексер». В шестистах благоустроенных квартирах поселились семьи военнослужащих выводимой из Европы Западной группы войск. Здесь же нашли пристанище и беженцы из горячих точек бывшего Союза.

Городок был возведен за неполных полтора года. Рядом с жильем разместились школа, детский сад, автоматическая телефонная станция. Деньги на строительство в сумме 83-х миллионов марок выделила Германия.

**НА СНИМКАХ: в новом микрорайоне; в уютной трехкомнатной квартире живет теперь семья бывшего мичмана Малахова, вынужденная покинуть Баку. Виктор Викторович сейчас служит в белорусской армии, а жена с тремя детьми хозяйничает дома, с удовольствием наведываясь в окрестные леса за грибами и ягодами.**

Фото Эдуарда КОБЯКА, БЕЛИНФОРМ.

■ ГРАМАДА

# ЧАРНОБЫЛЕЦ — І Ў МІНСКУ ЧАРНОБЫЛЕЦ

Юрась БАРЫСЕВІЧ.

**Дзе сёння ў Мінску найчасцей можна пачуць беларускую мову? Не, не на філфаку БДУ, не ў фае купалаўскага тэатра, не ў беларускім парламенце і нават не на пляцы Незалежнасці падчас мітынгу БНФ. А ў новых мікрараёнах сталіцы — Малінаўцы, Шабанах, Кунцаўшчыне. Доўгімі вечарамі сядзяць тут на лаўках ля пад'езда ў шматпавярховікаў бабулі і дзяды і гамоняць пра жыццё-быццё. Гамоняць гучна, ніколькі не саромеючыся сваёй вясковай мовы. Адкуль яны ўзяліся ў Мінску?**

**Памятаеце, колькі гадоў назад Вярхоўны Савет Беларусі прыняў рашэнне аб выдзяленні кватэр у сталіцы для жыхароў раёнаў, што пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы. У адрозненне ад іншых, гэтае рашэнне не стала папяровым. І сёння ў Мінску жыве ўжо каля дванаццаці тысяч «чарнобыльцаў». Большасць з іх тыя, хто трапіў у лік асоб на першачарговае адсяленне з зоны забруджвання: цяжкахворыя, інваліды, сем'і з малымі дзецьмі, старыя, адзінокія — тыя, каму так званы «радыяцыйны СНІД» асабліва небяспечны.**

**Але, на жаль, перасяліўшы людзей з маленькіх вёсачак і райцэнтраў у сталіцу, нашыя кіраўнікі палічылі справу зробленай. І пакінулі «чарнобыльцаў-перасяленцаў» сам-насам са сваімі праблемамі, клопатамі і турботамі. Бо з перасяленнем не пабольшала здароўя ў аслабелых людзей. Самі разумееце: захварэць можна хутка, а вось выздаравець... Пахадзіўшы трохі па розных кабінетах, «чарнобыльцы» зразумелі даўнюю «ісціну»: выратаванне тапельцаў — справа саміх тапельцаў, што асабліва актуальна ў наш «рыначны» час.**

**Вось таму і з'явілася ў Заводскім раёне Мінска, а дакладней, у Шабанах, таварыства «Перасяленец Чарнобыля». Арганізавалі яго тыя, хто першымі пераехалі ў сталіцу на пастаяннае жыхарства. Узначаліў таварыства былы заатэхнік з Веткі Мікалай Дарагаўцоў. Мэты таварыства зразумелыя: аказанне сацыяльнай, матэрыяльнай, медыцынскай і проста дабрачыннай дапамогі людзям, што адселены з чарнобыльскай зоны. І ў першую чаргу адзінокім, старым, хворым, інвалідам, дзецям... Бо няма сёння цімураўцаў, якія ўзялі б над імі шэфства, як бывала раней.**

**Аб'ядноўвае таварыства 350 чалавек. Не шмат, але не колькасць галоўнае, а справа. Сёлета 70 дзяцей, бацькі якіх уваходзяць у таварыства, змаглі летам цудоўна адпачыць. А большасць жа з іх — слабыя здароўем, хворыя, ёсць і інваліды. Не будзем пералічваць хваробы, якія пасля Чарнобыля сталі частымі гасцямі ў кватэрах перасяленцаў, яны шмат разоў ужо называліся. Назавём лепш тых, хто адгукаецца на просьбы таварыства і дапамагае. Найперш гэта міжнародная гуманітарная няўрадавая арганізацыя «Чарнобыль — Дапамога Беларусі», якую ўзначальваюць М.Ф. Ягораў і Г.А. Вечар, Мінскі гарадскі фонд «26 красавіка» на чале з М.А. Образавым. Ад іх атрымлівалі перасяленцы лекі, вітаміны, прадукты, рэчы, яны дапамагалі аздаравіць дзяцей за мяжою. Вялікую дапамогу аказаў і Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт. Дарэчы, сёстры міласэрнасці часта бываюць у кватэрах чарнобыльцаў, дапамагаюць старым, далучаюць маленькіх да слова Божага. З увагай і павагай да патрэб «Перасяленца Чарнобыля» ставяцца і ў Заводскім райвыканкаме. І таму ў наш няпросты і нялёгкі час хочацца падзякаваць усім, хто разумее перасяленцаў, хто спачувае і шчыра дапамагае ім.**

**Само жыццё вымагала стварэння такога таварыства, як «Перасяленец Чарнобыля». І добра, што яно з'явілася. Бо хто лепш ведае праблемы чарнобыльцаў, як не яны самі. Хай далёка сёння ад Мінска іх родныя Ветка, Нароўля, Хойнікі, Чачэрск — бяда ад перасяленцаў гэтак далёка не адышлася. 5-6 гадоў, пражытых у зоне забруджвання, не прайшлі бясследна. І таму чарнобылец — ён і ў Мінску чарнобылец. І патрабуе тут гэтакай самай пільнай увагі з боку медыкаў, дабрачынных фондаў і райвыканкамаў, як і там, у зоне. І чым хутчэй мы гэта зразумеем, тым лепш.**

**Тым, хто захоча дапамагчы перасяленцам, паведамляем адрас, на які можна звярнуцца са сваімі прапановамі: 220075, г. Мінск, вул. Ротмістрава, д. 36, к. 3, кв. 51, «Перасяленец Чарнобыля».**

